


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 2(672)**
**Люты 2022 г.**


# Два гады пандэміі - канец яшчэ ня бачны

У студзені сёлета спаўняецца два гады, як у Злучаных Штатах быў зарэгістраваны першы выпадак захворваньня на "карона-вірус". Гэтая падзея стала пачаткам цэлай эпапеі, беспрэцэдэнтнай хады падзеяў у найноўшым часе. Праз два месяцы краіна апынулася ў жорсткім лакдаўне, калі правы і свабоды людзей сталі значна абмяжоўвацца, калі мясцовыя і фэдэральныя ўлады ўвялі ў дзеяньне шэраг мераў, што адмоўна паўплывалі на жыцьці й дабрабыт амэрыканцаў. Усе памятаюць тыя часы, калі людзі ўзяліся насіць маскі й празрыстыя шчыткі, сталі штохвіліну праціраць рукі дэзынфэкцыяй, апранаць гумовыя пальчаткі, якімі пасьля былі закіданыя ходнікі, і азірацца навокал, каб ніхто ня стаў да іх бліжэй за 6 футаў. Зачыніліся школы, рэстараны, кінатэатры, крамы нехарчовых тавараў. Пакупкі з харчовых крамаў пільна апрацоўвалі бель, што Трамп даслаў у Нью-Ёрк на выпадак, як стануць занятыя ўсе месцы для хворых (гаткая сытуацыя не надыйшла).

Прыкладна праз паўгады слова "карона-вірус" амаль зьнікла, яго замянілі на "ковід-19". Пасьля бандыцкіх "пратэстаў" лета 2020 году ўсе сталі зьвяртаць значна менш увагі на дыстанцыяваньне ў 6 футаў, і ня так часта праціралі рукі і паверхні дэзынфэкцыяй. Але пэўныя рэчы засталіся нязьменнымі – непрацуючыя рэстараны й бізнэсы, які нібыта меліся быць зачыненыя толькі на "15 дзён"; імглістыя, але бадзёрыя развагі др. Энтані Фаўчы, што мы яшчэ шмат чаго ня ведаем, і лічыльнікі ахвяраў карона-вірусу ўнізе тэлевізыных экранаў. Уважалася, што вірус – пакараньне за Трампа, а таксама і на Трампа. Праз словы камэнтатараў было чуваць надзею, што вось ужо гэткага мэга-накату Трампу ня зьнесьці. Але нічога, зьнёс, а і на-19. Пандэмія высьветліла й зрабіла рэльефнымі ўсе праблемы і хібы амэрыканскага грамадзтва і, напэўна, хібы ўсіх дэмакратычных грамадзтваў. Бо мы, відаць, ніколі так і не даведаемся сапраўдную колькасьць ахвяраў карона-вірусу ў Кітаі, адкуль выйшаў вірус, гэтак як дасюль ня ведаем колькасьці ахвяраў голаду ў Кітаі з часоў лявацкага камуністычнага "вялікага скачка". Але лявацкая ідэялёгія нарабіла справаў і ў Амэрыцы, і менавіта ў сувязі з сусьветнай пандэміяй карона-вірусу ковід-19. Дзіўным чынам эканамічная сытуацыя, якой прадказвалі найбольшае згаршэньне ў выніку цяжкасьцяў, зьвязаных з пандэміяй, выглядае не найгорай, прынамсі яна не звалілася да ўзроўняў "вялікай рэцэсіі" канца 2000-х гадоў. Узровень беспрацоўя застаецца невысокім, і шмат дзе назіраецца праблема знайсьці ахвотнікаў на вакантныя працоўныя месцы.




антысэптыкам, а ва ўсіх мажлівых месцах зьявіліся правілы належнага мыцьця рук, "ня менш за 20 сэкундаў". Чэргі людзей стаялі каля шпіталёў, каб праверыцца наконт наяўнасьці вірусу. Прэзыдэнт Трамп, губэрнатар Кўома і мэр дэ Блазіё кожны дзень "даводзілі справы" наконт вірусу, але ад гэтага справы не рабіліся больш зразумелымі. Штодня а 7-й увечары людзі пачыналі стукаць у кухонныя прылады і галёкаць, славячы "працаўнікоў вірусная фронту" – лекараў і мэдыкаў, якія працавалі, як нам казалі па тэлевізіі, у надзвычайных, крытычных умовах. Прыйшлі й адышлі палкія дыскусіі пра выраб вэнтылятараў лёгкіх, прыйшоў і сыйшоў шпітальны карабат пасьпеў, мабілізаваўшы належныя рэсурсы, забясьпечыць выраб у рэкордны час вакцыны супраць вірусу. Натуральным чынам новаму прэзыдэнту Байдану былі прыпісаныя посьпехі ў выпрацоўцы вакцынаў і ў змаганьні зь вірусам, проста за сядзеньне ў сваім бэйсмэнце й выхады на публіку ў масцы – хоць у шматлікіх выпадках аказалася, што як камэры не здымалі, дык і маскі на Байдану не было.

За апошнія два гады Злучаныя Штаты й весь сьвет прайшлі празь некалькі хваляў нясучай сьмерць хваробы, што на час напісаньня гэтых радкоў забіла 865 тысяч амэрыканцаў. Больш за 70 мільёнаў амэрыканцаў перахварэлі на ковід-

Аднак застаецца вялікай праблемай няпэўнасьць і разгубленасьць грамадзтва ў гэтыя беспрэцэдэнтныя часы. Пасьля рэгулярных прэс-канфэрэнцыяў "гуру", кшталту доктара Фаўчы, пасьля выступаў соценькі экспэртаў, пасьля тысячаў артыкулаў, пасьля прышчэпак і "бустараў", і нават асабістага досьведу, які людзі набіраюць, цапануўшы вірус і перахварэўшы ім – ніхто ня мае ўяўленьня, што будзе далей, як складзецца становішча з аховаваю здароўя і жыцьцяў амэрыканцаў. Як сталася, што ў краіне з найбольш разьвітай мэдыцынскай індустрыяй і тэхналёгіямі, зь першакляснымі дасьледчымі й эпідэміялягічнымі ўстано-

*працяг на бачыне 2*

# Два гады пандэміі...

*працяг з бачыны 1*

вамі, з адпрацаванымі эпідэміялягічнымі плянамі, з дынамічнымі ворганамі мясцовай улады, што мусілі б аб'ектыўна ацэньваць абстаноўку – загінула найбольшая колькасьць людзей, разы ў два болей за Індыю і значна болей за сьмяротнасьць ад вірусу "гішпанкі" 1918 годзе? Чаму практыка ўвядзеньня лакдаўнаў, ізаляцыі праводзілася так аглабельна, безразважна і, проста, нелягічна? Чаму антынавуковыя падыходы, характэрныя для палітызаваных пытаньняў кшталту "зьмены клімату" сталі некрытычна пераносіцца на эпідэміялёгію і пытаньні аховы здароўя? Пытаньні, пытаньні...

"Хайп" і наступная паніка, зьвязаная з карона-вірусам пачалася, як гэта заўсёды бывае, з журналістаў. Успомнім, як журналісты карпаратыўных мэдыяў прызвычаіліся накручваць расавыя жарсьці, зьвязаныя з крыміналам "мяншыняў" і дзеяньнямі паліцыі, калі гатовыя вэрдыкты гучаць ужо ў першых, нерасьследваных і неправераных паведамленьнях навінаў. Затым, ізноў жа па завядзёнцы, далучаюцца палітыкі й палітыканы (кшталту Шарптана і Бэрні Сандарса). Да кучы дадаюцца неправераныя кампутарна-мадэляваныя варыянты разьвіцьця падзеяў і статыстыкі. Наганяе страху загадкавасьць "экспэртаў", што прадказваюць мільёны памерлых, перапоўненасьць шпіталёў і грамадзкі хаос, накшталт часоў "чорнага мору" ў Эўропе – эпідэміі бубоннай чумы ў Сярэднячеччы. Натуральным вынікам панікі ёсьць супярэчлівыя рэкамэндацыі Цэнтраў Кантролю Захворваньняў (CDC) і намер хутчэй "паказаць рашучасьць і эфэктоўнасьць" з вынікам у выглядзе неразважлівай і нягнуткай палітыкі, якой і сталася практыка лакдаўнаў ды ізаляцыі. Пачалася тузаніна з ужыцьцём масак – то яны праклямуюцца недастаткова эфэктоўным сродкам, то назаўтра заяўляецца пра іхную абсалютную неабходнасьць, то затым цытуюцца досьледы, што паказваюць амаль тоесныя ўзроўні захворваньняў пры наяўнасьці й пры адсутнасьці масак. Няма адзінства ў тыпе масачнай абароны: адзін носіць некалькі хірургічных масак адна на адной, кітайскія бабулі дадаюць яшчэ ахоўныя акуляры і празрысты шчыток, а другі хіпстар проста нацягвае з шыі на рот хустку-бандану – усё гэта лічыцца выкананьнем патрабаваньня, налепленага паўсюль на дзьвярах: "mask required".

Наступным вынікам панікі стала боязь, што перапоўняцца мажлівасьці шпіталяў, зьнікнуць вакантныя ложкі, і хворыя будуць валяцца пад платамі на вуліцах. Мэр дэ Блазіё цэлы час скуголіў пра злонамеранага Трампа, які не дапамагае ягонаму штату, які вось-вось пазбавіцца апошніх шпітальных ложкаў і вэнтылятараў для лёгкіх, але калі прыйшлі вэнтылятары, яны – як і шпітальны карабель – засталіся незапатрабаваныя. Па дырэктыве тагачаснага губэрнатара штату Нью-Ёрк Эндру Кўома і дзеля боязі, што захварэўшыя пацыенты з дамоў састраэлых перагрузяць шпітальную сыстэму, тых пацыентаў пакідалі лячыцца ў іхных інстытуцыях, дамах састарэлых. У выніку неадэкватных умоваў лячэньня і непадрыхтаванасьці пэрсаналу памерла найменш 8 тысячаў старых, адбылася катастрофа, якую сталі хаваць і заніжаць. Губэрнатар Э. Кўома пахваляўся сваімі дзеяньнямі па перападоленьні пандэміі, а нават тут жа напісаў кнігу пра гэта. Толькі пазьней, калі кіраўніцтва Дэмпартыі ў Нью-Ёрку, якое ўсё болей нагадвае мафіёзную структуру, вырашыла што ёй не па дарозе з Эндру Кўома, ён рукамі гэнпракуроршы штату Лытышы Джэймс быў нізрынуты й змушаны зрэзыгнаваць са сваёй пасады. Былі агучаныя вынікі расьследваньня па сьмяротнасьці ў дамах састарэлых. Падобныя дырэктывы, як і ў Кўома, як аказалася, былі дадзеныя ў штатах Мічыган, Нью-Джэрзі й Пэнсыльвэнія, і ў некаторых іншых мясьцінах, дзе ва ўладзе Дэмпартыя. Пры гэтым усе перуны й маланкі карпаратыўных мэдыяў былі скіраваныя супраць губэрнатараў-рэспубліканцаў, якія не сьпяшаліся ўводзіць лакдаўны і абавязкавае нашэньне масак. Ці не штодня тэлекамэнтатары з жалобнымі тварамі казалі пра гатовы вось-вось грымнуць апакаліпс ў Фларыдзе, праз "бязьдзейнасьць міні-Трампа губэрнатара Рона ДэСантыса". Як пазьней аказалася, "міні-Трамп" дзеіў ня горш за поўнага Трампа. У параўнаньні да закрытых і зарэгуляваных Нью-Ёрку і Каліфорніі, штат Флярыда, дзе цэлы час працавалі школы і рэстараны і не ўводзілася абавязкавае нашэньне масак, меў на сярэдзіну 2021 году амаль удвая ніжэйшы ўзровень сьмяротнасьці ад вірусу (адпаведна 267, 264 і 136 сьмерцяў на 100 тысяч насельнікаў). Але дарма. ДэСантыс дасюль застаецца анатэмай для левалібэральных дзеячаў, а ня прыкладам для пераймальня, а навукоўцы, што насьмельваюцца аспрэчваць з фактамі й статыстыкай у сваіх публікацыях неэфэктоўнасьць, марнатраўства і шкоднасьць панічных крокаў – робяцца аб'ектамі цкаваньня праз журналістаў і мэтаю каардынаваных атакаў "больш прагрэсіўных" калегаў. Навукоўцы, што падпісалі Барынгтонскую Дэклярацыю (Great Barrington Declaration) аб шкоднасьці лакдаўнаў і патрэбе засяродзіцца на ізаляцыі толькі інфэктаваных асобаў, а не ўсяго грамадзтва, і на ўзмоцненай абароне здароўя найбольш крохкіх і неабароненых групаў насельніцтва – былі абвешчаныя шарлятанамі, "агентамі дэзынфармацыі", "адмаўляльнікамі ковіду" (Covid deniers). Падцягнуўся і Бігтэк: Гугель праз свой падкручаны альгарытм вывеў у топ пошукаў толькі крытычную інфармацыю пра Барынгтонскую Дэклярацыю, Твітар зачыняў рахункі некаторых "дысыдэнцкіх" навукоўцаў, а Ютуб касаваў відэа, зьвязаныя з Р. ДэСантысам і Барынгтонскімі навукоўцамі. Іхныя дасьледчыя артыкулы без тлумачэньняў здымаліся з сайтаў для навукоўцаў. Дзіўным чынам гэтыя сайты былі значна больш зычлівыя для кітайскай камуністычнай прапаганды ў выглядзе адмаўленьня тэорыяў пра ўцёкі вірусу з Вуханьскай лябараторыі.




Алярмісцкія, па-за кантэкстам выказваньні й прадказаньні прыўладных экспэртаў паўплывалі на ўзрошчваньне стану пэрманэнтнай трывогі і крызісу, які так старанна сталі культываваць журналісты й палітыкі для ўжытку ў выглядзе палітычнай зброі ды ўладнага інструмэнту, калі пад маркаю "ратаваньня жыцьцяў" у людзей забіраліся іхны дабрабыт і грамадзянскія свабоды, ня кажучы пра адмаўленьне адукацыі для іхных дзяцей. За адмаўленьне ад прышчэпак людзі рэальна губляюць працу, ламаюцца лёсы, разбураюцца сем'і. Патрабаваньне вакцынацыі робіцца аб'ектам палітычных маніпуляцыяў, інструмэнтам уплыву, што ня мае нічога агульнага з клопатам аб здароўі людзей.

Палітызацыя навуковых досьледаў стала паталёгіяй, якая рэальна спрычы-

*заканчэньне на бачыне 3*



# Злачынства залежнасьці

## (ліст сябрам Народнай Партыі)

### Зянон ПАЗЬНЯК

Калі нарвэжская кампанія “Яра” (Yara) пад ціскам Эўразьвязу аб'явіла, што спыняе да 1-га красавіка адносіны і гандаль зь “Беларуськаліем”, то на абліччах групнікаў газпрам-апазыцыі засьвяцілася шчасьце – яны запісалі гэта на свой рахунак і палічылі, што дамагліся свайго, бо дакучалі “Яры” словаблудствам ўвесь час, каб абрэзаць гандаль зь Беларусяй. “Гэта пазыцыя беларусаў, я раблю гэта дзеля іх”, – важна казала Сьвятлана нарвежцам. І вось “Яра” пад уплывам Брусэля і на шкоду сабе рашылася на разрыў.

Шчасьлівая Сьвятлана Ціханоўская (якая ўвайшла ў ролю), усур“ёз заявіла, што “Yara зможа вярнуцца да партнэрства з прадпрыемствамі новай Беларусі”.

“Яра” – ня самы моцны партнёр “Беларуськалія”, але ўсё ж такі, калі абапірацца на камэрцыйную выгаду ды на сумленьне, ды калі ведаць і разумець, што адбываецца ў Беларусі, то так рабіць было ня варта і ня хораша, тым больш, што Нарвэгія не належыць да Эўразьвязу. Праўда, “Яра” яшчэ крыху нібы вагаецца, але групнікі – у захапленьні. Магчыма, ім здаецца, што яны асабіста ўвагналі цьвічок ў дамавіну Беларусі. І нельга сказаць, што яны ня ведалі, не разумелі, што рабілі.

І цяпер уявім іх поўнае шчасьце – гэта значыць, калі б ворагі Беларусі начыста ўгробілі “Беларуськалій”. Найперш – гэта быў бы поўны крах горада Салігорска (110 тысячаў насельніцтва). Увесь горад, уся інфрастуктура, уся ягоная сацыяльная сыстэма, абслуга, культура, мэдыцына, школа, уся праца людзей завязаная на калійнае прадпрыемства, на якім працуе 20 тысячаў працоўных (зьвесткі на 2010 год). І яны таксама апынуліся б бяз працы на вуліцы. (Было б з чаго парадвацца прамаскоўскім самагубцам.)

Сумесныя дзеяньні Пуціна і Лукашэнкі па падрыхтоўцы інвазіі ў Казахстан яшчэ раз праілюстравалі для самых някемлівых, што ніякія санкцыі Лукашэнку ня зваляць. Лукашэнка прыліп да “мудрага” Пуціна, як пабіты слуга, як карысны халуй, гатовы на ўсё: на агрэсію, здраду, на чужую вайну. Тым больш, што яны, здаецца, знайшлі адзін аднаго, маўляў, пасьля нас – хоць патоп.

Санкцыі ўвогуле не ліквідуюць улады дыктатараў і тэрарыстаў. Яны толькі гробяць дзяржаву, краіну і народ. Гісторыя стоадсоткава тое пацьвярджае.

Вось сьвежы прыклад – Аўганістан. Талібы выгналі амэрыканцаў і ўсіх эўразьвязаўскіх саюзьнікаў. Як помсту Захад заблякаваў гандаль і ўсе банкаўскія рахункі аўганцаў (фірмаў і людзей), увёў санкцыі і блякаду Аўганістана.

На сёньняшні дзень у Аўганістане – голад. Галадае палова насельніцтва краіны, мільёнам людзей ня стала чаго есьці, галадаюць дзеці ў халодных школах, хворыя ў халодных шпіталях. Людзі, каб сагрэцца, нават разьбіраюць і паляць пабудовы. Гуманітарная катастрофа. Генэральны сакратар Аб'еднаных Нацыяў Антоніу Гутэррыш узьняў свой голас, заклікаючы ратаваць аўганцаў. Неабходна мінімум пяць мільярдаў даляраў, каб на нейкі час падтрымаць людзей.

І талібам нічога ня сталася. Яны як уладарылі ў краіне, так і ўладараць. (Дарэчы, паўтаруся, талібы не ваююць за іслам ва ўсім сьвеце. Яны стаяць за Аўганістан. У іх аўганская пазыцыя.)

Калі я гляджу на гэтых групнікаў, што атабарыліся ў Вільні, на іхныя халяўна-гламурныя постаці і позы, у мяне заўсёды ўзьнікае думка: навошта іх утрымлівае ў Вільні ўрад Летувы? Чаму не адмаўляецца ад падтрымкі гэтых русафільскіх паліттурыстаў (якім начхаць на лёс беларускай нацыі і нацыянальнае адраджэньне)? Ці ўлады сапраўды ня бачаць, як тырчаць там “мудрыя” пуцінскія вушы? Ці, можа, палітыкі ў Вільні не разумеюць рэальнасьці? Загадка.

Усё, што зрабілі летувісы з эўрасанкцыямі, – гэта найперш нашкодзілі сабе (панесьлі вялікія эканамічныя страты) і потым – нашкодзілі беларусам (таксама вялікія эканамічныя страты). Пытаньне – чыя гэта такая экстравагантная палітыка? Каму тут выгада?

Такая рэальнасьць. Прытым гэтая рэальнасьць пад уплывам “мудрага” Пуціна можа (нечакана і на ўзьдзіў “экспэртам”) на працягу трох гадзін абярнуцца, скажам, “калінінградзкім калідорам” і анэксіяй тэрыторыі. І наўрад ці НАТО ўступіцца. Такі час. Такія людзі кіруюць уладай.

Я даўно засьведчыў, што (пры добрай зьмене абставінаў у Беларусі) шкода, якую зрабіла для краіны групоўка вакол Ціханоўскай-Латушкі, шкода гэтая ім ніколі ня сыйдзе з рук. Іхныя паняцьці пра палітыку і рыторыка – гэта фальшывая зьява, падмена ідэалаў нацыянальнага змаганьня і свабоды нацыі каляніяльным дабрабытам – “страной для жизни,” – прамаскоўскі тупік. Адказваць будуць разам з Лукашэнкам.

Яны дэманструюць і кажуць за Беларусь, але за Беларусь у залежнай (нэакаляніяльнай) сыстэме адносінаў з Расеяй. Вось у гэтым ёсьць іх прарасейская сэрвільная сутнасьць. Тут і “рускі язык”, і “двуязычыя” і русіфікацыя. Яны не адмаўляюцца ад расейскай залежнасьці, не змагаюцца за свабоду ад расейскага імпэрыялізму. Яны думаюць, што будуць існаваць разам з ворагам, выконваючы ягоная патрабаваньні, і ён ім дазволіць жыць.

Шмат чаго яшчэ беларусы даведаюцца пра гэтую прамаскоўскую групку, узьнятую на шчыт прапагандай. Важна будзе, аднак, зразумець што сытуацыя “Абы не Лукашэнка” не павінна больш паўтарыцца.

*14 студзеня 2022 г.*

## Два гады пандэміі...

*заканчэньне з бачыны 2*

няецца да нанясеньня шкоды чалавечаму жыцьцю, робіцца начыньнем “сацыяльнай інжынэрыі”, якому пазайздросьціў бы і Сталін.

Нездарма вэтэранка “лявацкага фронту” Джэйн Фонда так выказалася пра ковід: “Дар Божы для левых”. Перабольшваючы і перакручваючы небяспеку, пераносячы віну за сытуацыю з Кітаю на Трампа, левакам пакуль удаецца “перасоўваць парадыгму”, мяняць адносіны амэрыканцаў да сваіх правоў і свабодаў пад маркаю аховы здароўя. Навука замест таго, каб быць у працэсе пошуку і дэбатаў, пераўтвараецца ў сьледваньне догме, у кшталт лявацкай рэлігіі, што абслугоўвае сацыяльныя і палітычныя патрэбы навязьвўленых “сацыяльных інжынэраў”.

Лявацкае трактаваньне пандэміі невядома чым скончыцца і ў кожным выпадку ўяўляе сабою небясьпечны прэцэдэнт па абмежаваньні правоў грамадзянаў дэмакратычнай дзяржавы пад накручаным і заідэалягізаваным прэтэкстам. Калі Амэрыка хоча застацца Амэрыкай, левардыкальнае шулерства вакол пандэміі мусіць быць выкрытае, асуджанае і спыненае.

**Віталь ЗАЙКА**




## У лістападзе 2021 году выйшаў у сьвет літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2021 год.

**Калі ласка, падтрымайце аўтараў і выдаўцоў гэтага нумару сваімі замовамі і зацікаўленасьцю!**

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**. Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара выдаўца **Marat Klakotski.**

Замовіць новы нумар, як і ўсе папярэднія, можна і праз інтэрнэт, наведаўшы старонку ***e-krama.com*** ***(https://krama.yahoosites.com/almanachi.html).*** На сайце таксама можна зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару альманаха.

## Шаноўныя сябры!




Разам са студзеньскім нумарам нашага бюлетэня ўсе падпісчыкі атрымалі таксама **каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2022 год**. Падпісчыкі, хто захоча мець больш чым адзін асобнік календара, ці тыя асобы, хто яшчэ не выпісваюць бюлетэнь, могуць яго замовіць у інтэрнэце, наведаўшы старонку з адрасам: ***krama.yahoosites.com.***

Кошт аднаго календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$10**, з дасылкаю ў Канаду **$12**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$15**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.

### *Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”!*

*Калі ласка, своечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на інфармацыйны бюлетэнь **“Весткі й Паведамленьні”**. (Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.)*

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня“Пагоня”**
***Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку: **https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***